14 ВЕРАСНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№104 (635) КОШТ СВАБОДНЫ




## «Балтыйскія хвалі» рыхтуюць інфармацыйнае цунамі

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Літоўская радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі» распаўсюдзіла зварот да беларускага народа, у якім паведамляецца, што гэта радыё хутка выйдзе ў беларускі эфір на сярэдніх хвалях. Трансляцыю плануецца весці з Вільні, на беларускай мове. Аўтары папярэджваюць, што, апроч арыгінальных праграмаў, будуць рэтрансліраваць перадачы іншых недзяржаўных радыёстанцыяў — беларускіх службаў амерыканскай «Радыё Свабода» і «Польскага Радыё». «Спадзяемся, што ва ўмовах абмежавання свабоды слова ў Беларусі радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі» стане для вас карысным інфармацыйным каналам і тым самым замацуе сяброўскія адносіны паміж нашымі народамі», — заяўляюць кіраўнікі радыё. НАВІНЫ ўзялі інтэрв'ю ў аднаго з заснавальнікаў «Балтыйскіх хваляў», вядомага беларускага журналіста Сяргея Харэўскага.

— ***Радыё «Балтыйскія хвалі» калі выходзіць у эфір?***

— З 1 студзеня 2000 года.

— ***Такім чынам, вы яшчэ маўчыце, а вас ужо назвалі апазіцыйнымі. Чаму?***

— Аляксандр Лукашэнка пайшоў яшчэ далей і ў інтэрв'ю вільнюскаму каналу VTV назваў нас «гэтак званым антыбеларускім цэнтрам». На самай справе радыё будзе самым незалежным з усіх, хто зараз вяшчае на беларускай мове, бо яно прыватнае. Яго заснавалі восем прыватных асобаў. Чацвёра грамадзянаў Беларусі — усе журналісты Беларускага інфармацыйнага цэнтра ў Літве — Дубавец, Лапцёнак, Корзун і Харэўскі. Іншыя чатыры — грамадзяне Літвы, сярод якіх дэпутат літоўскага Сейма каардынатар праекта Рымантас Плейкіс.

— ***Няўжо не было праблемаў з адкрыццём станцыі, якая будзе распаўсюджваць у суседняй краіне апазіцыйную інфармацыю?***

— Сябры грамадскай камісіі па радыё і тэлебачанні ў Літве цэлы год вагаліся, ці даваць нам частату, але пасля 20 ліпеня, калі беларускі прэзідэнт страціў паўнамоцтвы, усе сумненні адпалі. Найбольшы супрацію нам аказвалі беларускія афіцыйныя прадстаўнікі. Прыкладам, беларускі амбасадар у Літве спадар Гаркун праявіў у гэтай справе незвычайную актыўнасць, але прайграў.

— ***На якую аўдыторыю разлічвае вашае радыё?***

— Нам аддадзеная частата, на якой вёў перадачы расійскі «Маяк». Мы будзем перадаваць наш сігнал праз рэтранслятар пад Вільнюсам і зможам пакрыць фактычна ўсю Беларусь. Такім чынам, разлічваем на любога грамадзяніна краіны, які цікавіцца навінамі пра Беларусь і Літву з недзяржаўных крыніцаў. ▶

*Заканчэнне на стар.2*

# У горадзе чакалі выбухаў

## На фоне расійскіх падзеяў «тэлефонны тэрарызм» ужо не выглядае так бяскрыўдна, як раней

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**Учора зранку ў Гродзенскі абласны штаб Грамадзянскай абароны патэлефанаваў незнаёмы, які паведаміў, што ў шэсць гадзінаў вечара будынкі гарадскога гатэля і аўтавакзала гарадскога пасёлка Астравец будуць узарваныя, і параіў забяспечыць бяспеку людзей, якія маглі б у гэты час знаходзіцца ў вышэйзгаданых будынках.**



— Хто гаворыць? Які Басаеў?

Аператыўны дзяжурны штаба Уладзімір Бірукоў паведаміў нашаму карэспандэнту, што па трывозе на месцы патэнцыйных выбухаў выехала спецыяльная група сапёраў і пачала агляд аўтастанцыі. Будынак ачапілі салдаты-памежнікі і міліцыя. Людзі, якія знаходзіліся там, былі эвакуяваныя. Пасажыраў было вельмі мала, паколькі з-за недахопу паліва некалькі мясцовых маршрутаў адмененыя.

На час здачы нумара ў друкарню звесткі аб тым, ці былі знойдзеныя выбуховыя прыстасаванні, не было, але пошукі працягваліся. Асобу тэлефанаваўшага пакуль што высветліць таксама не атрымалася.

Аператыўны дзяжурны штаба Грамадзянскай абароны паведаміў таксама, што сапёрамі абавязкова будзе агледжаны і будынак гасцініцы.

На фоне частых тэрактаў у Расіі паведамленні аб закладзеных бомбах цяпер не выклікаюць іранічных усмешак і на тэрыторыі нашай краіны. Сапраўды, чым «чорт» не жартуе? ■

**РАССЛЕДАВАННЕ**

# Кто в теремочках живет?

## Первые лица страны, как и все смертные, занимаются индивидуальным строительством. Как правило, жильё «слуг народа» напоминает дворцово-замковые ансамбли

**Сергей АНИСЬКО**

**Недавно поразительными откровениями разразился генеральный прокурор Олег Божелко. В своем интервью газете «Республика» он рассказал о т.н. «громких» делах больше, чем на всех пресс-конференциях с его участием за последние полгода. Не обошлось и без выпада в адрес некоторых негосударственных газет, которые, следуя логике г-на Божелко, искусственно подогревают политические страсти в обществе. То ли допекли журналисты генпрокурора, то ли действительно прокуратура сумела отыскать новую крамолу на видных представителей оппозиции. В частности, на находящегося под следствием бывшего премьер-министра Михаила Чигиря.**

### Гвозди бы делать из этих людей...

В своем интервью Олег Божелко заявил о том, что в отношении Чигиря возбуждено второе уголовное дело, связанное со строительством «принадлежащего его семье жилого дома в поселке Приморье Минского района». Если верить генпрокурору, то экс-премьер «из корыстной заинтересованности недоплатил той же фирме «Пуше» 15 тысяч долларов, строившей этот коттедж». Понятно, что вряд ли Александр Пупейко захочет подтвердить эту информацию. Как и то, что никто не поверит возможным заявлениям попросившего политического убежища в Польше бизнесмена о том, что Чигирь полностью рассчитался за сделанные объемы работ. Что касается реакции супруги опального премьер-министра на заявления генпрокурора, то она уже известна — «Я собираюсь подавать в суд за клевету».

Можно еще добавить малоизвестный факт. Дело в том, что проверкой поступившего «сигнала» на тогда еще занимавшего кресло премьер-министра Михаила Чигиря, связанного с этим строительством, проводилась органами МВД. Личный контроль за этим разбирательством и последующим докладом президенту осуществлял Юрий Захаренко. Как утверждают информированные источники, сыщики так и не смогли найти ничего существенного, за исключением некоторых мелочей. Как, например, у хозяина не было одного-двух квитанций на всякую приобретенную мелочь — замки, гвозди. Как тут не вспомнить спикера ВС 12-го созыва, потерявшего свой пост из-за ящика гвоздей «двухсоток». Если напрячь память, то можно вспомнить, что эту крамолу на Станислава Шушкевича в виде сотни заостренных металлических штырей отыскал никто иной, как тогдашний нардеп Александр Лукашенко. ▶

*Окончание на стр.3*



Самое безопасное место — за спиной «патрона»

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

■ **Учора ноччу ў Маскве адбыўся чарговы тэрарыстычны акт.** Выбухам быў ушчэнт разбураны васьміпавярховы жылы дом на Кашырскай шашы. У доме жыло, па розных ацэнках, ад 120 да 150 чалавек. Выратавальнікі з-пад завалаў змаглі дастаць толькі трупы загінуўшых. Міліцыя заяўляе пра аднолькавы «почырк» злачынцаў – на Кашырскай шашы і на вуліцы Гур'янава. Таксама следчыя прасочваюць «чачэнскі след». Аднак Шаміль Басаеў ужо заявіў, што чачэнская армія з мірнымі жыхарамі не ваюе. У Маскве ўводзіцца «асобы рэжым».

■ **Інданезія пагадзілася, каб на тэрыторыю Усходняга Цімора ўвайшоў міратворчы кантынгент ААН.** Хутчэй за ўсё, гэта будуць прадстаўнікі Аўстраліі. Прэзідэнт Інданезіі Хабібі заявіў, што кіраўніцтва краіны таксама прызнае рашэнне жыхароў Усходняга Цімора выдзеліцца ў асобную дзяржаву.

■ **Узброеныя атрады сербаў спрабуюць дэстабілізаваць сітуацыю ў Косава.** Пра гэта паведаміў прадстаўнік міжнароднага кантынгента KFOR Оле Іргенс. Па ягоных словах, у некаторых узброеных нападах удзельнічалі групы сербаў, апранутых у напаўваенную форму невядомага паходжання. Магчыма, што сербскія атрады ў Косава накіроўвае Бялград.

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

наша свабода

**НАДВОР'Е**




**14 верасня** па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночны, 3—8 м/сек. **15—16 верасня** чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі днём 16 верасня на паўднёвым захадзе невялікія дажджы. Вецер паўночны з пераходам на ўсходні, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ўначы — 1—6, на глебе і месцамі ў паветры замаразкі да 0 — -3 градусы, удзень 11—16.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**485 000**

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Крыкні за мяне

Запрашэнне людзей да грамадскай актыўнасці, па маіх назіраннях, справа няўдзячная. Тым болей, запрашэнне да ўдзелу ў мітынгах з палітычнай афарбоўкай. Я і сам асабіста, калі вымаю з паштовай скрынкі аркушык паперы, які пачынаецца зваротам «Дарагія суайчыннікі!» ці па-руску «Дорогие соотечественники», неяк міжволі пачынаю лічыць, хто з суайчыннікаў мне дарагі? Я ведаю не надта многіх, а мільёны наогул — незнаёмцы. І з якой прычыны раптам раблюся «дарагім» для нейкага «аргкамітэта», як зараз часцяком падпісваюцца такія запрашэнні (нешта накшталт ранейшай таямнічай «адміністрацыі»). Думаю, што гэта адна з прычынаў, што на мітынгах, якога б накірунку яны ні былі, заўсёды не болей 2—3 тысяч удзельнікаў. Можна растлумачыць, што погляды ва ўсіх розныя, і таму вулічная сходка КПБ не зацікавіць сябраў Грамады і наадварот.

Але як зразумець, чаму яшчэ менш людзей збіраецца на больш важныя мерапрыемствы, прыкладам, на тыя, якія праводзяць экалагічныя аб'яднанні. Усе нашыя малыя і вялікія рэкі ў межах населеных пунктаў ператвораныя ў сцёкавыя канавы. Дастаткова зірнуць з моста на Свіслач, Нёман, Дзвіну, Ушу, Беразіну, Мухавец, Ваўчанку і г. д., каб жахнуцца. Вада, якую мы п'ём, у многіх раёнах пахне натуральным балотам. Магчыма ў ёй і прысутнічаюць балотныя насельнікі. У многіх мікрараёнах няма чыстага паветра, машыны выкідаюць на пешаходаў свінец і да т.п. Зараз адказнае чыноўніцтва вылучыла тэзіс, што трэба вучыцца жыць ва ўмовах радыеактыўнай небяспекі. Праўда, як гэтаму трэба вучыцца — ніхто не тлумачыць. Можа, кожны ранак паўтараць сабе, што не мае значэння, калі памерці — пазней ці раней. Нашы прадукты харчавання, як мясныя, так і малочныя, якасцю і знешнім выглядам сведчаць, што карыстацца імі магчыма толькі заплюшчыўшы вочы, а ў цвярозым розуме лепш не купляць. І што, шмат людзей збіраецца разам выказаць клопат пра сваё здароўе, здароўе сваіх родных і дзяцей. Лічыцца, што для ляманту пра экалогію ёсць «зялёныя». Няхай яны крычаць. За экалогію, чысціню паветра, вады і лясоў. А мы, бальшыня, якая скардзіцца на брыдкія кілбасы, вулічны шум, забруджанае паветра, звычна падумаем: «Людзі! Пакрычыце за мяне! Дасць бог, можа стане лепш!». Толькі хто ж будзе дзесяцігоддзямі крычаць за нас, мы ўсё ж не нямыя, мы проста маўклівыя ўсюды, апроч сваёй кухні.

# «Балтыйскія хвалі» рыхтуюць інфармацыйнае цунамі

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

***— Які сэнс вашаму радыё дубліраваць іншыя беларускамоўныя крыніцы?***

— Мы ствараем бесперапынны беларускі эфір з 8 раніцы да апоўначы. Пачнем са сваіх арыгінальных 30 хвілінаў, з паўторамі плюс музыка, а астатні час запоўнім з дапамогай нашых калегаў з «Радыё Свабода», «Польскае радыё», радыё «Рацыя». Яны выходзяць у эфір на кароткіх хвалях, іх глушаць, а мы на сярэдніх хвалях зможам забяспечыць устойлівы прыём сігналу і добрую якасць для іх слухачоў. Калі сітуацыя ў Беларусі зменіцца і гэтыя станцыі атрымаюць магчымасць для рэтрансляцыі ў Беларусі, такі дублёж стане проста не патрэбны і перапыніцца.

***— Галасы каго з вядомых журналістаў мы пачуем на хвалях вашага радыё?***

— Даў згоду на выхад у эфір аўтар вядомай «Вострай брамы» Сяргей Дубавец, карэспандэнт «Радыё Свабода» Сяргей Шупа, беларускія журналісты з Літвы Андрэй Антонаў і Андрэй Старавойтаў. Будзем супрацоўнічаць шмат з кім яшчэ. Мы гатовыя наладзіць дзелавыя сувязі з усімі, хто таленавіты і марыць пра тое, каб наша Бацькаўшчына стала дэмакратычнай, цывілізаванай краінай. ■

**СУДОВЫ ПРАЦЭС**

## Уладзімір ХІЛЬКО:
# Не вешайце насы!

### Прэзідэнцкая кампанія па вяртанні крэдытаў ператварылася ў трагікамічны фарс

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Тры з паловай гады пазбаўлення волі атрымаў былы старшыня праўлення Ашчаднага банка Уладзімір Хілько ад суддзі Фрунзенскага райсуда Мінска Алены Сямак. Гэта значна меней, чым прасіла пракурор Вольга Лапуцька, якая вызначыла для экс-банкіра ажно 5 гадоў. Сам жа У.Хілько ў сваім выступленні прасіў даць яму ўсе 7 гадоў, прадугледжаных артыкулам, каб увесь гэты спектакль быў весялейшым.**

Ён не прызнаў сваёй віны і лічыць, што ягоны лёс быў вырашаны даўным-даўно. Па словах адваката Святланы Маргулец, абвінавачванне пабудаванае на вельмі хісткіх доказах, і, відаць, па гэтай прычыне суд даў адносна невялікі тэрмін. Яна абскардзіць прысуд у Мінскім гарсудзе з мэтай змяншэння гэтага тэрміну.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Экс-банкіра абвінавацілі ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў, якое пацягнула за сабой матэрыяльны ўрон (артыкул 167, частка 2 Крымінальнага кодэкса). Аднак, згодна з прадастаўленай суду даведкай «Беларусбанка», нявернуты крэдыт утрымліваецца не на артыкуле «страты», а на «праблемных крэдытах». Пагэтаму пра страты гаварыць няма чаго.

У сваім слове ў судзе Уладзімір Хілько нагадаў, што да дзейнасці ягонага банка не меў ніякіх прэтэнзіяў уласнік у асобе Савета міністраў, а таксама Нацыянальны банк, які з'яўляўся кантралюючым органам. Высокую ацэнку давалі і замежныя эксперты. Само ж пытанне па вяртанні міжбанкаўскіх крэдытаў павінна разглядацца ў апошняй інстанцыі, міжнародным Вышэйшым гаспадарчым судзе ў Вене.

Уладзімір Хілько папрасіў суд прывесці дастойныя аргументы, каб ягоныя вучні, а сярод іх каля 30 кандыдатаў і дактароў навук, ведалі, за што ж пасадзілі настаўніка. «Да гэтага часу не ведаю, чаму я тут», — падкрэсліў экс-банкір, прафесар У.Хілько.

Публіку на працэсе шакіраваў вынесены прысуд. Падчас яго абвяшчэння ахова залы суда была ўзмоцненая з двух да дзевяці міліцыянтаў. Цяжка зразумець, якую ж небяспеку ўяўляў 52-гадовы Уладзімір Хілько ў гэтай добра пастаўленай камеды. На працэсе трымалі ў клетцы інваліда другой групы, які пакутуе ад шэрагу сур'ёзных захворванняў — прагрэсуючай стэнакардыі, постінфарктнага і атэрасклератычнага кардыясклерозу, цукровага дыябету і іншых. Падчас судовага працэсу яго наглядалі два медыцынскія работнікі. Ведаючы пра гэта, суд аднак прысудзіў, што У.Хілько павінен адбываць пакаранне ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пакуль прысуд яшчэ не ўступіў у сілу, экс-банкір знаходзіцца па-ранейшаму ў турэмнай бальніцы.

Суд абавязаў У.Хілько выплаціць матэрыяльны ўрон у памеры 849 мільярдаў рублёў, што складае 3 мільёны долараў ЗША па курсе Нацбанка. (Менавіта такая велічыня крэдытаў, якія дазволіў выдаць расійскаму і латвійскаму банкам У.Хілько.) Экс-старшыня Ашчаднага банка не мае такой маёмасці, якую мела банкірша Тамара Віннікава. Смешна, што гэтыя 3 мільёны долараў У.Хілько зможа зарабіць у папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Тым больш, што экс-банкір пазбаўлены волі ўжо на працягу 11 месяцаў. Абсурднасць сітуацыі відавочная, а барацьба прэзідэнта за «вяртанне крэдытаў» ператвараецца ў трагікамічны фарс. Пасля абвяшчэння прысуду Уладзімір Хілько заклікаў прысутных «не вешаць насы», бо праз некаторы час абвінаваўцы і падсудны памяняюцца ролямі. ■

**ПАРТЫІ**

# Хто пойдзе на перамовы з выканаўчай уладай?

**Рыгор БУЯН**

Апазіцыя канчаткова яшчэ не вызначыла персанальны склад дэлегацыі, якая павінна весці перамовы з выканаўчай уладай. Хаця на паседжанні міжпартыйнага Кансультатыўнага Савета 9 верасня фактычна ўжо названыя 6 палітычных партыяў, якія дэлегуюць сваіх прадстаўнікоў на перамовы. Гэта — Беларускі Народны Фронт, Аб'яднаная грамадзянская партыя, БСДП (Народная Грамада), Партыя камуністаў, Партыя працы і Партыя жанчын «Надзея». Менавіта названыя структуры набралі большасць галасоў пры рэйтынгавым галасаванні. Аднак 13 верасня Кансультатыўны Савет па прапанове лідэра ПКБ Сяргея Калякіна зноў вярнуўся да абмеркавання персанальнага складу дэлегацыі. Учарашняе паседжанне, на момант здачы нумара ў друк, яшчэ працягвалася.

Ход вызначэння складу дэлегацыі быў вельмі эмацыянальным: на 6 месцаў у дэлегацыі прэтэндавалі 10 суб'ектаў. Кансультатыўны Савет адразу вырашыў не ўключаць у бюлетэнь для галасавання грамадскі рух «Яблоко», у сувязі з чым яго кіраўнік Вольга Абрамава дэманстратыўна пакінула залу паседжанняў, і Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Засталіся толькі 8 партыяў. Па выніках галасавання адсеяліся БСДГ Станіслава Шушкевіча і Ліберальна-дэмакратычная партыя Сяргея Гайдукевіча. Варта адзначыць, што лідэр ЛДП надзвычай упарта дамагаўся месца ў апазіцыйнай дэлегацыі, і таму нервовая рэакцыя прадстаўнікоў ЛДП на вынікі галасавання «цалкам зразумелая», як выказаўся старшынствуючы на паседжанні кіраўнік Народнай Грамады Мікола Статкевіч. Па ягоных словах, з боку ліберал-дэмакратаў «гучалі пагрозы»: «Прадстаўнікі ЛДП крычалі, што без іх перамовы не адбудуцца». У той жа час М.Статкевіч паставіў пад сумненне самую прыналежнасць ЛДП да апазіцыйнага лагера: «Я так зразумеў, што Ліберальна-дэмакратычная партыя на гэтых перамовах прадстаўляе больш пазіцыю ўрада, чым апазіцыі. Было б больш да месца, каб гэтая партыя была прадстаўленая ў групе Сазонава, а не ў апазіцыйнай дэлегацыі».

Такім чынам, Кансультатыўны Савет фактычна вызначыў 6 палітычных партыяў, якія будуць удзельнічаць ад апазіцыі ў перамовах. Але гэта будзе пастаянная дэлегацыя, без ратацыяў, на чым настойвала місія АБСЕ. Спадар Вік прапаноўваў Кансультатыўнаму Савету фармаваць дэлегацыю па схеме «4+2»: гэта значыць чатыры пастаянныя прадстаўнікі ад БНФ, АГП, Народнай Грамады і ПКБ плюс па два прадстаўнікі ад астатніх суб'ектаў, якія пастаянна будуць мяняцца. Кансультатыўны Савет не прыняў гэтую прапанову. «Любая ратацыя дае ўладам магчымасць для манеўра, калі замест непатрэбнай ім арганізацыі з'явіцца патрэбная», — заявіў Мікола Статкевіч.

13 верасня міжпартыйны Кансультатыўны Савет зноў вярнуўся да абмеркавання прадстаўніцтва на перамовах. С.Калякін, які выступіў з гэтай прапановай, аргументаваў сваю пазіцыю неабходнасцю «больш дакладна вызначыцца з працэдурай прыняцця рашэння». ■

**ЦЫТАТА НУМАРА**

> **30 сентября ФПБ обещала вывести на митинг 50 тысяч человек, и мы их выведем.**
>
> *Александр БУХВОСТОВ*
> *«Белорусская газета», 13 сентября 1999 года*

## БНФ: новая дата з'езда прызначаная

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

На Сойме Беларускага Народнага Фронту, які адбыўся мінулымі выхаднымі, была прызначаная дата другой сесіі шостага з'езда руху і партыі. Працяг барацьбы за ўладу ў буйнейшай беларускай палітычнай партыі паміж групоўкамі Зянона Пазьняка і Вінцука Вячоркі павінен адбыцца 30—31 кастрычніка.

Нагадаем, на першай сесіі, якая адбылася ў канцы ліпеня—пачатку жніўня, ніводзін з кандыдатаў на пасаду старшыні не набраў патрэбнай колькасці галасоў.

Соймам таксама прынятае рашэнне аб зняцці з пасады адказнага сакратара Управы БНФ спадара Анатоля Крывароты, які з'яўляецца адным з дарадцаў Пазьняка на Беларусі. Новым адказным сакратаром абраны Вячаслаў Сіўчык, які раней ужо займаў гэтую пасаду.

Між тым, далёка не ўсе сябры Сойма БНФ прысутнічалі пры прыняцці даных рашэнняў. Частка сябраў, артадаксальных прыхільнікаў дзеючага старшыні, праігнаравала паседжанне. У кулуарах, нягледзячы на прынятую Соймам дэкларацыю аб адзінстве Фронту, працягваюць хадзіць размовы аб «раскольніцкім» з'ездзе «пазьнякоўскай» часткі Фронту. Некаторыя патэнцыйныя яго ўдзельнікі нават не хаваюць намераў правесці падобны з'езд, які б афіцыйна аформіў раскол у БНФ. ■

## Ялта не принимает Лукашенко, зато Киев рад белорусской оппозиции

**Пресс-служба БАМП**

С 9 по 11 сентября в Киеве состоялся второй Паневропейский форум, организованный Европейской народной партией и Христианско-демократическим Интернационалом, в котором приняли участие представители партий, депутаты национальных парламентов из 13 государств, а также члены Европарламента, международных организаций.

От Беларуси в форуме принимали участие заместитель председателя ОГП, депутат Верховного Совета Анатолий Лебедько, заместитель председателя БНФ Сергей Панков и член Координационного Совета БАМП Кирилл Игнатик.

В вступительной речи Вилфрид Мартенс, в течение 12 лет возглавлявший правительство Бельгии и являющийся в настоящее время председателем Европейской народной партии, которая выиграла этим летом выборы в Европарламент, отметил, что «Беларусь до сегодняшнего дня находится в руках сталиниста». По итогам форума принята резолюция, которая содержит пункты в поддержку суверенитета Беларуси и требования освобождения депутатов Верховного Совета А.Климова и В.Кудинова. ■

## Прыклад для Еўропы

**Дзмітрый ВЕТРАЎ**

У ноч з пятніцы на суботу ў начны клуб «Тытанік», што знаходзіцца на вуліцы Прытыцкага сталіцы, уварваўся спецназ ГУУС Беларусі.

Клуб «Тытанік» прымаў у сваіх сценах *Gay Pride Belarus'99* — першы ў Беларусі фестываль геяў і лесбіянак. 10 верасня ў гэтым клубе праходзіў конкурс «Трансмісія'99». Прыкладна ў дзесяць хвілінаў на другую гадзіну ночы, калі член журы спявачка Іна Афанасьева з'ехала з клуба на сваім белым «Мерседэсе», а актрыса і рэжысёр Анжэліка Калашнікава — на чырвоным «Рэно», у памяшканне ўварваўся беларускі спецназ у чорных масках і з аўтаматамі. Адразу яны накінуліся на нейкага хлопца, збілі яго з ног і, працягнуўшы праз усю залу ў цёмны кут, пачалі абшукваць ахвяру. Прысутныя былі ў шоку ад такога відовішча.

Паводле словаў шматлікіх сведкаў, усяго ў «аперацыі» ўдзельнічала каля 20 спецназаўцаў. Паводзілі яны сябе жорстка і нахабна. Абстаноўку разрадзіла спявачка Кася Камоцкая, якая галосна заспявала на матыў «А я інстытутка» «І вось незалежнасць у нашай дзяржаве». Цішыня, якая панавала ў сценах клуба, узарвалася смехам. Праз хвіліну «абаронцы парадку» з'ехалі, сумленна адпрацаваўшы 20 хвілінаў. Як паведаміў НАВІНАМ прэзідэнт Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў Эдвард Тарлецкі, спецназаўцы такім чынам спрабавалі знайсці ў гасцей «Тытаніка» наркотыкі, але нічога не знайшлі.

Кіраўнік украінскай дэлегацыі на фестывалі сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ, што такое ва Украіне проста немагчыма. Украінская гей-дэлегацыя мела афіцыйны статус, а ўкраінскі МЗС і Служба бяспекі Украіны гарантавалі аператыўнае ўмяшанне ў выпадку магчымых эксцэсаў на беларускай зямлі. ■

РАССЛЕДАВАННЕ

# Кто в теремочках живет?

*Окончание. Начало на стр. 1*

Кстати говоря, жилой дом четы Чигирей никакими особыми излишествами в архитектуре не поражает обывателя. Хотя, конечно, не лачуга. Да и стыдно премьер-министру суверенного государства жить в стесненных условиях, стыдясь пригласить гостей. Со вкусом возведенное строение, с удобным расположением жилых комнат. Как свидетельствуют те, кому удавалось побывать внутри дома, мебель не самая шикарная, каких-либо излишеств, если не считать таковым камин, нет. Это у цыганского барона декоративные мини-водопады установлены на всех трех этажах особняка. Приусадебный участок не удалось привести в образцовое состояние по вполне понятным причинам. Элементами современной эпохи можно лишь считать спутниковую антенну на крыше и наличие телефона. На фоне двух расположенных неподалеку еще недостроенных особняков коттедж Чигиря явно проигрывает в архитектурных излишествах. И уж вовсе его нельзя сравнить с многочисленными дворцами в окрестностях Минска (например, поселок Боровляны), которые в 1994 году антикоррупционер № 1 обещал реквизировать у проворовавшихся хозяев. Однако, как показало время, далее угроз дело не пошло.

## Затерялась в глуши деревенька...

С учетом того, что загородные владения физических лиц становятся чуть ли не элементами большой политики, НАВІНЫ задались вопросом выяснить, как проводит свой досуг вдали от столичного смога ближайшее окружение президента. Так уж вышло (никакой подоплеки в этом нет), что первым объектом стало «ранчо» госсекретаря Совета безопасности Виктора Шеймана.

В свою депутатскую бытность г-н Шейман не строил каких-то конкретных планов по обзаведению недвижимостью. Оно и понятно — работа в должности секретаря комиссии по нацбезопасности, а затем деятельность в команде будущего президента отнимала слишком много времени. Кроме того, относительно скромная зарплата нардепа не позволяла даже и мечтать о строительстве не то что коттеджа, но и скромной дачи.

Однако жизнь заставила. Возникла необходимость перевезти престарелых родителей, проживающих в Лидском районе, поближе к Минску. Такая сыновья забота только делает честь г-ну Шейману. Недолгие поиски новой земли обетованной для отца и матери привели в небольшую, увядающую деревеньку Подлипки Пуховичского района. При ее посещении создается впечатление, что пришлых людей в ней больше, чем уроженцев этой местности. Минчане, причем не самого убогого достатка, заимели здесь участки и возводят свои дачи. Именно здесь Виктор Шейман приглядел недорогую крестьянскую усадьбу с участком земли около 40 соток и небольшим рубленым крестьянским домиком. Место весьма выгодное в территориальном плане — из Минска, расстояние до которого около 40 км., можно попасть как по могилевскому, так и гомельскому шоссе — и престижное — д.Подлипки считается географическим центром Беларуси. Так сказать — пупок земли синеокой.

После первых президентских выборов, предопределивших невиданный политический взлет еще недавно мало кому известного депутата и армейского офицера, усадьба начала разрастаться. Вначале был капитально отремонтирован дом, за облицовочным кирпичом которого уже не стало видно обветшавшего деревянного сруба, от центральной улицы Подлипок подворье отгородили высоким сплошным забором из досок. Оно и правильно, нечего кому ни попадя лицезреть частную жизнь семейства Шейманов.

Затем настал черед строительства загородного дома для самого Виктора Владимировича и его семейства. Небольшой (примерно 8 х 10) двухэтажный «теремок» оригинальной конструкции из тесанного леса с пристройкой был воздвигнут в метрах 15 от родительской хаты в рекордно короткие сроки. Неподалеку появился кирпичный хозблок довольно-таки внушительных размеров, которому бы позавидовал любой фермер. Апофеозом стало возведение здесь же во дворе небольшой, но уютной бани. Но на этом фронт работ не закончился. В прошлом году на подворье Шейманов можно было наблюдать авральные работы, в которых принимала участие специально нанятая бригада строителей и автокран на базе автомобиля МАЗ. Номера последнего указывают на его принадлежность к автохозяйству Гродненской области. Возникает вопрос — неужели нельзя было найти аналогичную технику в Пуховичском районе, а не гонять за 250 км ? К этому же периоду относится установка металлического гаража и асфальтирование усадьбы, рытье котлована и завоз бетонных конструкций для следующего объекта.



В центре — Виктор Шейман. Путь от майора до генерал-майора он прошел всего за пять лет.

Нынешней весной процесс продолжился. Забор подворья Шейманов, граничащий с пустующим участком, был снесен, и там начато возведение одноэтажного типового блочного трехкомнатного дома и хозпостройки. Для придания жилищу более привлекательного вида и повышения его теплоизоляционности дом обложили белым кирпичем. Причем эти два объекта по замыслу неизвестного архитектора слиты воедино с разделяющим их арочным входом. С учетом того, что забора между отстроенной усадьбой госсекретаря и последним объектом так и не появилось, можно сделать вывод, что вместе они составляют единый «дворцово-замковый ансамбль». Хотя, некоторые источники утверждают, что последний дом построен для ближайшей родственницы Виктора Владимировича. Вполне нормальное явление — любому человеку, в том числе и госсекретарю, не должны быть чужды родственные узы. Однако, проверить информацию оказалось не так уж просто. Соответствующие лица в местном сельсовете и райисполкоме тайну хранить умеют похлеще Мальчиша-Кибальчиша.

Примечательно, что жителей Подлипок вовсе не задевает соседство с госмужами и новыми белорусами. Напротив, они даже рады им. Все объясняется очень просто. С появлением влиятельных новоселов нуждам сельчан (выделение сельхозтехники для уборки урожая с собственных подворий, пополнение ассортимента в близлежащем магазине и т.д.) в местном хозяйстве стали уделять более пристальное внимание. В настоящее время осуществляется капитальный ремонт асфальтного полотна проходящей через Подлипки дороги Дукора—Смиловичи.

## Посчитали — прослезились

Вполне естественно, что хотелось бы знать — во сколько вылилось многоэтапное строительство для госсекретаря. Дабы избежать обвинений в клевете, передергивании фактов, некомпетентности и сгущении красок, НАВІНЫ пригласила в поездку в Подлипки сотрудника одной из коммерческих структур, занятого в сфере строительного бизнеса. Конкретнее, он специализируется в определении оценочной стоимости недвижимости. Однако с его стороны было выдвинуто непременное условие — сохранение анонимности. В противном случае, как сказал комикадзе-оценщик, «можно ставить «крест» на деятельности всей моей фирмы». Оно и понятно, если вспомнить строительный бизнес Андрея Климова. Было ясно, что итоговая цифра будет намного меньше реальной. Ведь мы не имели возможности зайти во все жилые и хозяйственные постройки, а значит, увидеть внутренний интерьер. Одно дело когда стены обклеены обоями гомельской фабрики, другое — росписью под дерево, крашенные потолки или подвесные от французской фирмы. Для калькуляции важно знать габариты и размеры печей, их облицовка, конструктивные особенности фундамента, перекрытия крыш, наличие каминов и системы водоснабжения, природа материалов дверных и оконных пролетов и многое другое. Но, как законопослушные граждане, свято придерживающиеся принципа «мой дом — моя крепость», мы даже не пытались переступить порог частного владения.

После долгого подсчета с использованием калькулятора и уточнением цен на строительные материалы и выполняемые работы по специальным тарифным расценкам была выведена цифра, соизмеримая с 23—25 тысячами долларов. Повторимся — это стоимость наружных работ. Хотя, как отметил оценщик, данная цифра может быть на порядок меньше. Все зависит от того, когда и где закупался материал, каким образом заключался договор со строителями, форма взаиморасчета с ними или с организациями. Последнее, с учетом наличия множества курсов доллара, позволяет за одну и ту же работу заплатить в два раза меньше.

Готовя данный материал, НАВІНЫ вовсе не преследовали цель заглянуть в кошелек госсекретаря. Мало того, мы абсолютно уверены, что госсекретарь Совбеза не мог себе позволить «левых» сделок. Тем более, что в масштабах страны, в которой он денно и нощно контролирует деятельность в правоохранительных органах по выявлению мошенников. И, тем более, что его труд на этом поприще высоко ценится президентом. Хотя есть одно «но». Если вспомнить неоднократные заявления Александра Лукашенко, то его президентская зарплата, по нынешнему курсу НБ, колеблется где-то в размерах 200—300 «зеленых». У госсекретаря, если следовать логике, соответственно, должна быть еще меньше. Поэтому можно только посочувствовать Виктору Шейману и его семье, которые за годы долгостроя вынуждены были всячески урезать свои повседневные расходы ради обустройства семейного гнездышка. И одновременно порадоваться за то, что у руля государства находится столь экономный хозяин. ■

УЛАДА

# Дядя Петя, ты дурак?

## В эти дни работники министерств и ведомств озадачены «в особо крупных размерах».

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Дело в том, что до 15 сентября (координирующий орган — Минэкономики) ведомствам необходимо разработать и передать в администрацию президента прогноз социально-экономического развития РБ на 2000-ый год.

И это при том, что прогноз, подписываемый президентом, становится обязательным для выполнения заданием (планом). При том, что ни один из предыдущих плановпрогнозов не выполнялся. При том, что в нынешнем году (как и во все предыдущие) сельское хозяйство потеряет не менее 1/10 объемов производства, а ему надо «спрогнозировать» по меньшей мере 10-процентный рост. При том, что цены растут, а показатель среднемесячной инфляции надо спрогнозировать хотя бы на уровне 4-5%. И таких «при том» великое множество.

Впрочем, прогнозно-аналитическая деятельность официальных экспертов финансируется отдельной строкой бюджета, чиновники получают заработные платы. Поэтому всякие сомнения нравственного свойства скорее всего не будут иметь решающего значения. То есть прогнозу — быть. Иное дело шкурные соображения. Уже сейчас многие аппаратчики, а среди них есть и мнящие себя интеллектуалами, задаются вопросом: «Что будет после»? После этого обвального экономического роста. Вдруг какой-то несмышленыш спросит, получив в подарок вместо конфетки фантик: «Дядя Петя, ты дурак?» И даст толстой палкой. ■

ДЫЯГНАЗ

# Чудоюдство



**Александр ПОТУПА**

Аккурат к пятилетию президентуры красно-зеленой памяти белорусское экономическое чудо-юдо испустило дух. В связи с чем — не вижу логики. Если непонятно, кратко напомню — речь идет об усато-бородатом, но вечно актуальном анекдоте. По школьному коридору несется мальчишка с веселым криком «логики не вижу!» Его ловит пораженный директор — «в чем дело?» «Логики не вижу, — настаивает ученик. — Я пукнул, училка выгнала меня на свежий воздух, а весь класс сидит и нюхает». Вот она и есть — наша судьба со сладковато-гнилостным запахом клинических проявлений резонаторного политического метеоризма. *Пропагандюки* добились-таки своего — страна стала всемирным горьким посмешищем сквозь слезы. То есть, разумеется, смех их, всемирный, а слезы с пропагандюками — наши. И пресветлые лики матерых президентельцев, слегка ошарашенных итогами Пятилетки Президентуры и притихших в ожидании очередной грандиозной взбучки, — тоже наши, доморощенные и глубоко простонародные. Тут же не в Нью-Йорк, а, прости Господи, в родной славянобратский Крым не пущают! И их великодержавное превосходительство Путинельцин никакого славянобратского политсоюза пока не желают. Похоже, и это сугубо пропагандючье чудо-юдо испустило дух. Передо мной полноцветно и на роскошной бумаге изданная российско-белорусская газета «Российская Федерация». Вряд ли стоит швырять камни в столь дикое сочетание. Напротив, спасибо ее создателям за поразительную откровенность. Мы ведь сие северо-западное транзитное место понимаем-с... Самое забавное там в ином — в интервью главнейшего интегратора, размещенном с подобающим комфортом на полутора полосах в № 28 от 9 августа сего года. Отчего цитируемые слова делаются совсем уж вещими: «Это наш приоритет в экономике: село, экспорт и жилье. Вот три «кита», которые нам позволяют сегодня толкать экономику вперед». Превосходное в научном плане объяснение. Со времен Средневековья, когда киты, как известно, держали на себе блинообразную землю, они оставались безработными. Наконец-то и их трудоустроили в белорусскую «вертикаль», дабы давали дозвол на толкание экономики вперед. За последующий месяц дотолкались до того, что, кажется, даже величайший из интеграторов вот-вот спустит в воды Свислочи китобойную флотилию. Боюсь, китобойство становится наиважнейшим белорусским приоритетом. Ибо село утоплено окончательно, экспорт нерентабелен, и не вполне ясно, на какие такие шиши, то есть триллионы, достраивать раскрученное печатным станком имени Прокоповича жилье. Возможно, от голода и холода нас спасет именно чудо-юдо рыба-кит. Накормил же некогда величайший чудотворец свой народ пятью хлебами. Чудоюдотворец накормит свой электорат тремя китами. Свеженькими — прямо из светлой памяти Средневековья, куда ускоренно несется Беларусь сквозь 1990-й, 1937-й и прочие славные годы. И фурщетить по означенному случаю лучше сразу на свежем воздухе, дабы оному электорату в случае испускания духа сохранить в целости хотя бы свою чудоюдскую логику. ■

СПОРТ

## На кон пастаўлены лёс футбола і лёс Міхаіла Вяргеенкі

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Бліжэйшым часам можа быць вырашаны лёс галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе Міхаіла Вяргеенкі, які абвінавачваецца ў няўдалым выступленні каманды на адборачным турніры чэмпіянату Еўропы 2000 года (у сямі праведзеных матчах — дзве нічые, пяць паражэнняў і апошняе месца ў сваёй адборачнай групе).

На ўчарашнім пасяджэнні бюро выканкама Беларускай федэрацыі футбола (БФФ) павінная была абмяркоўвацца дадзеная сітуацыя. Не выключана, што будзе ўзнятае пытанне аб замене галоўнага трэнера. Паводле існуючых звестак, жаданне ўзначаліць нацыянальную каманду выказалі два вядомыя футбольныя спецыялісты — Людас Румбуціс і Анатоль Байдачны. Адначасова, паводле словаў прэс-аташэ БФФ Яўгена Весніна, інфармацыя аб будучай адстаўцы М.Вяргеенкі — не больш чым чуткі. «З Міхаілам Нікіфаравічам заключаны кантракт на ўвесь адборачны цыкл, да канца якога застаўся толькі адзін матч з Італіяй. На мой погляд, М.Вяргеенку неабходна даць магчымасць дапрацаваць, а потым вырашаць пытанне аб яго далейшым лёсе. Асабіста я пакуль не бачу вартай замены цяперашняму галоўнаму трэнеру», — заявіў Я.Веснін. ■

СПЕЦСЛУЖБЫ

## Бабулька-«божы адуванчык» аказалася шпіёнкай

### Яе супрацоўніцтва з КДБ дазволіла Савецкаму Саюзу паскорыць стварэнне атамнай бомбы

**Эля ЗЯНЬКОВА, Лондан**

Меліта Норвуд — імя 87-гадовай «шпіёнтэсы», якое сталася сенсацыяй на старонках англійскай газеты *The Times*. Суседкадзівачка з паўднёвага прыгарада Лондана, якая прызвычаілася выпісваць па 30—40 нумароў камуністычнай газеты *Morning Star* ды раздаваць бясплатна суседзям, аказалася кадэбісцкім шпіёнам з саракагадовым стажам.

Дзякуючы архіўным дакументам, вывезеным на Захад былым агентам КДБ Васілём Мітрохіным, агентурная мянушка Хола зацікавіла пэўныя структуры ў Скотланд-Ярдзе. Неўзабаве яны выйшлі на члена Камуністычнай партыі Вялікай Брытаніі, агента КДБ з 1937 года — Меліту Норвуд. Працуючы сакратаркай у сакрэтнай фірме па стварэнні атамнай бомбы, яна пасляхова перадала савецкім спецслужбам дакументы, якія дазволілі Савецкаму Саюзу стварыць атамную бомбу на два гады раней, чым прадказвалася на Захадзе.

Дачка латышскага таты ды англійскай маці Меліта пераняла сацыялістычныя погляды свайго бацькі. І нават цяпер, у свае 87 гадоў, лічыць, што ўсё зрабіла правільна. І калі б цяпер выпала мажлівасць выбраць, яна б паўтарыла свой шлях. Меліта Норвуд дагэтуль жыве ў старым доме, які яна калісьці купіла ў трыццатыя гады разам са сваім мужам-матэматыкам з камуністычнымі поглядамі. Яна сцвярджае, што шпіёніла на карысць Саветаў не за грошы, а па перакананні. Дагэтуль яна свята верыць у сістэму, якая дае людзям роўныя магчымасці, добрую адукацыю ды медыцыну. У 1979 Меліта Норвуд зрабіла падарожжа ў Маскву ды адмовілася ад грашовай узнагароды за сваю працу. Як сцвярджаюць англійскія крыніцы, Меліта Норвуд была ўзнагароджаная ордэнам Чырвонага Сцяга за свае заслугі, хаця сама яна гэта адмаўляе.

На акне яе дома вісіць плакат з патрабаваннем затрымаць гонку ўзбраенняў ды забяспечыць бедных ежай. Сама гаспадыня п'е гарбатку з кубка з выявай Чэ Гевары. Брашуры з патрабаваннем спыніць амерыканскую блакаду Кубы ды падтрымаць яе камуністычнага лідэра, акуратна складзеныя ў стос.

Эксперты разведкі кажуць цяпер па надзвычайную «шасцёрку». Маецца на ўвазе 5 распазнаных шпіёнаў, якія, дарэчы, усе мелі вышэйшую кембрыджскую адукацыю, паходзілі з вышэйшых слаёў грамадства і працавалі на сакрэтныя савецкія службы. Цяпер да іх ліку дадаўся яшчэ адзін агент. І ён — жанчына.

Джэк Стро, міністр унутраных справаў, выказаў сваё рашэнне, што Меліта Норвуд не можа быць прыцягнутая да адказнасці з-за сваіх старэчых гадоў. Гэта адразу выклікала пэўную рэакцыю ў Брытаніі. Анн Уідаком, ценявы міністр унутраных справаў, выказалася: «Гэта абуральна. У той самы момант, калі Джэк Стро атрымаў інфармацыю, ён мусіў зрабіць заяву, ён павінен быў адразу ўдасканаліць усё, што тычыцца судовага працэсу над гэтай жанчынай. Здрада ніколі не даруецца». ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

## Шанс для художника стать богатым

### Дизайнер будет пытаться через суд «оторвать кусочек» от самого выгодного в Беларуси бизнеса — водочного

**Татьяна НОВИКОВА**

**В Беларуси почти нет судебных процессов в области защиты авторского права. Припоминается только один спор художника с изготовителями водки «Всеслав Чародей», которые использовали гравюру, изображающую Всеслава Чародея, без согласия автора. Художник выиграл процесс и добился выплаты потиражных. Недавно я узнала о еще одном таком белорусском деле. Дизайнер выступает против завода «Кристалл». Процесс начался 13 сентября. Права автора в суде будет защищать Союз дизайнеров. О споре с заводом «Кристалл» НАВІНЫ расспросили президента этого Союза Дмитрия СУРСКОГО.**

Фота Ул.ШЛАПАКА




Так выглядит водка «Всеслав Чародей» сейчас. Образа Всеслава Чародея, из-за которого разгорелось судебное разбирательство художника с изготовителями, мы на ней не обнаружили.

***— В чем суть спора по этому иску?***

— Речь идет о процессе против завода «Кристалл», который начала Татьяна Гардашникова. Она разработала известную этикетку для бальзама «Минск», будучи штатным дизайнером полиграфического предприятия «Полифакт». Завод заказал «Полифакту» этикетки, а затем печатал их в других типографиях, используя макет без согласия автора. Татьяне заплатили за работу, однако разработчик имеет право на авторское вознаграждение при каждом использовании этикетки. И поскольку «Кристалл» отверг все претензии Гардашниковой, она обратилась в народный суд по месту ответчика. Дизайнер пока только требует от завода предоставить точные сведения о том, каким тиражом печаталась этикетка. В дальнейшем, в зависимости от решения суда, автор будет претендовать на потиражные или иную форму компенсации ущерба. Первое слушание дела было назначено на 13 сентября этого года.

Нужно сказать, что в данном случае у дизайнера есть шансы выиграть процесс, поскольку работа выполнялась в 1997 году, когда еще действовал старый закон «Об авторском праве».

***— Чем старый закон лучше нового?***

— Новая редакция, которая была недавно принята, ущемляет права авторов в сравнении с прежним советским законом. Например, теперь авторское право на служебное произведение сохраняется за нанимателем или работодателем, если это не *оговорено иначе*. То есть авторское право на дизайнерскую работу, выполненную по заданию фирмы ее штатным сотрудником, сохраняется за этой фирмой. Прежний закон оставлял авторство за дизайнером.

***— Таким образом вопрос упирается в то, как правильно составить договор между дизайнером и фирмой, в которой он работает или которая дала ему заказ.***

— В соответствии с новым законом, даже учитывая особые формы договора, весьма сложно отстаивать авторское право штатного сотрудника. Мы же обращаем внимание на те случаи, когда дизайнеры работают по договору подряда или авторскому договору, не будучи в штате — они могут претендовать на потиражные независимо от того, как составлен договор. Нужно добавить, что потиражные — это процент не от стоимости этикетки, а от стоимости изделия, на котором она находится, а это уже немалая сумма. Если это водка, то размер вознаграждения, в соответствии с нормативами, составляет 0,5% от ее отпускной стоимости при тираже свыше 10.000 экземпляров.

С другой стороны, как быть с этикеткой на дорогой товар, например, норковую шубу? Процент от цены изделия довольно высок, однако именно этикетка, то есть марка товара, и определяет его цену. Шуба барановичского производства несравнима с изделием модельного дома Гуччи.

***— Какие выгоды несет заказчику соблюдение закона «Об авторском праве»?***

— Дело в том, что для производителя выплачивать потиражные в некоторой степени безболезненно, потому что они ложатся на себестоимость продукции, а не выплачиваются из фонда заработной платы. С другой стороны, любой фирме выгодно иметь устойчивую торговую марку, качественную этикетку для своего продукта. Грамотно «упакованный» продукт проще продвигать на рынке и получать прибыль от его продажи — это известно даже ребенку. Тогда почему же серьезный производитель позволяет себе такое пренебрежение, когда этикетка постоянно изменяется, заказывается непрофессиональным исполнителям? Кроме того, нужно помнить, что по закону и непрофессионал имеет право на потиражные.

***— Это первый ваш судебный опыт?***

— Да, это первое дело, где Союз дизайнеров выступает защитником прав разработчиков. Сейчас мы готовим второе дело.

Автор оплачивает пошлину, а подготовку дела и ведение документов берет на себя Союз. Если дело удастся выиграть, то, возможно, какой-то процент денежной компенсации автор сочтет нужным оставить нашей организации. ■

***Закон Республики Беларусь «О внесении изменений и дополнений в закон РБ «Об авторском праве и смежных правах»***

***Статья 14 «Авторское право на служебные произведения»***

*1. Личные неимущественные права на произведения, созданные в порядке выполнения служебного задания или служебных обязанностей (служебное произведение), принадлежат автору.*

*2. Имущественные права на служебное произведение принадлежат нанимателю, если договором между ним и автором не предусмотрено иное.*

*3. Автор служебного произведения не вправе препятствовать его обнародованию нанимателем.*

КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Закон и его дополнения весьма трудно применять к этикетке хотя бы по следующим простым соображениям. Объектом авторского права является произведение дизайна. Часто произведение дизайна отождествляется с изделием, которое предлагают в продаже. Например, дизайн табурета неотчуждаем от самого табурета, выполненного в соответствии с ним. Другое дело автомобиль, когда дизайнер или разработчик отдельной системы для данной модели может использовать свое произведение в других моделях. Является ли дизайн этикетки с норковой шубе частью дизайна самой шубы, а этикетка к водке — частью дизайна самой водки?

Говоря о потиражных для этикетки, связанных с правом автора получать процент от использования своего произведения, мы задаем вопрос: это процент от готового произведения самой этикетки или от готового изделия водки?

Комитет по авторским и смежным правам так прокомментировал проблему: «Стороны *могут* установить в договоре размер авторского вознаграждения, определяемого в процентах от отпускной цены каждого экземпляра изделия с этикеткой...».

Стоит заметить, что все права автора на свое произведение не будут иметь под собой никакой силы, если нет договора. Кроме того, слово «могут» говорит само за себя, так оно никого ни к чему не обязывает.

Вероятно, суд в каждом случае будет решать эту задачу то так, то этак. С одной стороны, можно бросать монету «орел или решка?», а с другой — смотреть на разницу в деньгах, а это миллионы, миллиарды белорусских рублей, американских долларов, фунтов стерлингов... Голова идет кругом... ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 597 Нумар падпісаны ў друк 13/09/99 (15:00) Наклад — 16.790